ISSN 1991–7155
9 771991 715006




**Рэгіянальная газета.** Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

16 сакавіка 2018 года №11 (1194)

# Хажовец два дні змагаецца з паводкай пры дапамозе рыдлёўкі і сякеры

старонка 2

Вада з палёў сцякае ў гараж і падвал жыхара Хажова. Магчымая прычына – тое, што сусед, які побач пачаў будаўніцтва, пракапаў роў.

Фота Наталлі ТУР.

## Хочаце купіць сабе спакой на цэлы год ад праблемных суседзяў? Пазычце ім грошай

старонка 20-21

## Віляйчанка атрымала падарунак і дыплом ад "Рэгіянальнай газеты"

ВІЛЕЙКА

9 сакавіка карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" ўручыла **Жанне Гардынец** з Вілейкі падарунак і сертыфікат "Асоба года-2017".

Нагадаем, што ў акцыі "Рэгіянальнай газеты" "Асоба года-2017" Жанну Гардынец падчас галасавання на сайце абралі нашы чытачы. Летась мы пісалі пра тое, што Жанна са сваімі аднадумцамі дабіваецца, каб анкадыспансер у Вілейцы перанеслі з будынка турмы.

– Лічу, што ўзнагарода "прыйшла" якраз у патрэбны час, – падзялілася з намі Жанна Гардынец. – У канцы года мы проста хадзілі па інстанцыях і пісалі пісьмы. А на сённяшні дзень мы маем ужо пэўны вынік: сітуацыю з анкадыспансерам узяла на кантроль абласное начальства. У красавіку абяцаюць перанесці анкадыспансер з будынка турмы, набыць неабходнае абсталяванне.

Жанна шчыра дзякуе жанчынам, якія падтрымалі яе. Яна лічыць, што дзейнасць віляйчанак – прыклад таго, як звычайныя людзі, калі збяруцца разам, могуць дабіцца істотных перамен.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Па словах Жанны, перамога ў "Асобе года-2017" належыць не толькі ёй. Разам перамаглі ўсе віляйчанкі, што падтрымалі яе.**

## Адкрылі выставу Рыгора Мяжуева

МАЛАДЗЕЧНА

Выстава "Спакон вякоў", прысвечаная 60-годдзю маладзечанскага мастака **Рыгора Мяжуева**, адкрылася ў Палацы культуры 6 сакавіка і працягнецца да 27 сакавіка.

Павіншаваць творцу з юбілеем прыйшлі сваякі, сябры, калегі па цэху, навучэнцы. Здароўя, дабрабыту і творчага натхнення пажадала мастаку начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі **Соф'я Філістовіч**. Дырэктар Палаца культуры **Святлана Сарока** падарыла альбом "Рукою майстра. Творчасць мастакоў Міншчыны", у які ўвайшлі чатыры карціны юбіляра.

Подыхі даўніны, гістарычныя мясціны, прыгажосць краявідаў заўжды вабілі Рыгора Мяжуева. На выставе – 25 акварэльных работ мастака, напоўненых любоўю да роднага краю.

– Законаў творчасці няма. Можна ісці па правілах, законах, фарміраваць нейкія чарткі, але гэты твор будзе халодны. А можна адхіліцца ад усіх гэтых законаў, ад усяго адмовіцца і зрабіць вельмі добрую работу. Галоўнае, каб быў нейкі штуршок і натхненне, – падзяліўся творца.

Рыгор Мяжуеў нарадзіўся 11 сакавіка 1958 года ў вёсцы Паддубцы Віцебскай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Вучыўся ў **Івана Сталярова** і **Алега Арлова**. З'яўляецца членам Беларускага Саюза мастакоў. Працуе ў тэхніцы акварэлі, жывапісу, змешанай тэхніцы. Выкладае ў гімназіі-каледжы мастацтваў Маладзечна. Яго творы знаходзяцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі, прыватных калекцыях.

Мастак не можа сядзець без справы. Сястра творцы **Ларыса Бярнацкая** прыгадвае:

– Як толькі ездзім куды-небудзь на прыроду ўсёй сям'ёй, ён заўсёды малюе. Ніколі не заназваўся. Калі прыязджае дадому, аб'язджае ўсіх сваякоў, заходзіць да кожнага, каб пагутарыць.

Усе госці выставы ў адзін голас называлі Рыгора Мяжуева шчаслівым чалавекам, бо ён можа тонка адчуваць і ярка выказваць свае думкі і пачуцці.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

ТЭМА НУМАРА



**Карабель па вуліцы Лугавой у Хажове.**

# Жыхар Хажова: "Сусед затапіў нам гараж і сказаў: "Выбачайце"

МАЛАДЗЕЧНА

**У двары дома па вуліцы Лугавой у Хажове стаіць карабель. І на пытанне, куды плыць на ім, дакладна адкажуць іншыя хажоўцы, жыхары вуліцы Гагарына, 26, якія гэтай вясной аказаліся ў цэнтры "мора".**

Мора з талага снегу, што ідзе з палёў, затапіла і вароты, і агарод, і склеп, і гараж.

На пад'ездзе да дома нас сустракае гаспадар з рыдлёўкай. **Арцём Лантас**, так завуць гаспадара, учора ўвесь дзень сякерай і рыдлёўкай прабіваў шлях вадзе, якая бяжыць з палёў да іх на ўчастак.

– Праблема з затапленнем у нас існуе кожны год. Мы прывыклі, што дом наш у нізіне, таму кожная вясна пачынаецца аднолькава. Але летась, вы памятаеце, паводкі такой не было. Ды і будаўніцтва па суседстве таксама.

Арцём паказвае на дом насупраць, які толькі будуецца.

– Сусед перарыў канаву, па якой вада сцякала туды, на лог. А калі мы пайшлі з ім сварыцца, што праз яго самадзейнасць у нас ледзьве не патануў гараж, сусед адказаў: "Выбачайце".

Пры гэтым, расказвае мужчына, рашэнне ў іх праблемы простае, толькі вось сельсавет чамусьці не хоча ісці насустрач.

– Я звяртаўся да старшыні Хажоўскага сельвыканкама **Сяргея Шупляка** з просьбай выдзеліць трактар, каб пачысціць зарослы лог. Каб той лог зрабіць ніжэйшым за ўзровень дарогі, то вада там бы і збіралася.

А праблема, як высвятляецца, не толькі ў прыватнай уласнасці гаспадароў дома па вуліцы Гагарына, 26.

Талы снег затапіў і вялізную частку сельскагаспадарчых угоддзяў.

– Тут і год таму засеўшыя трактары цягалі адзін аднаго. А цяпер, напэўна, тут усё бур'яном зарасце, бо на сельскагаспадарчай тэхніцы сюды не пад'едзеш.

### Шчасце, што трапіліся адэкватныя людзі

Старшыня сельвыканкама Сяргей Шупляк ведае пра гэту праблему.

– Я гутарыў і з тымі, і з тымі. Разумею праблему жыхароў, у нас штогод там праблема. Я сам выязджаў на месца, паглядзеў. Сапраўды, вядзецца будаўніцтва, чалавек рабіў сябе пад'езд да ўчастка. Але паабяцаў, што ўсе хібы выправіць, як толькі будзе дазваляць надвор'е. Гэта шчасце, што трапіліся адэкватныя людзі, якія разумеюць, што ўчынілі нязручнасць суседзям. Мы ж у сваю чаргу пракладзём там трубы. І спадзяюся, што наступная паводка такіх бедаў не наробіць.

Што датычыцца сельскагаспадарчых земляў, то Сяргей Шупляк упэўнены, што праблем з імі не будзе.

– Пакуль надыдзе пара сеяць там, думаю, зямля падсохне і ўсё там будзе добра.

Арцём Лантас хвалюецца, каб сусед не стаў падсыпаць свой участак перад тым, як вырашыцца праблема з вадой.

– Інакш у нас тут будзе аквапарк. Гараж пакуль затапіла да костачак, склеп – на метр. А калі не разабрацца цяпер, то на наступны год у двор будзем уязджаць на чоўне.

**Наталля ТУР.**
**Фота Наталлі ТУР.**





**Гаспадар дома Арцём Лантас паказвае, да якога ўзроўню паднялася вада ў гаражы.**

# Як развіваць сваю справу на вёсцы

## Прадпрымальнік са Случчыны дзеліцца досведам з жыхарамі нашага рэгіёна

Сваё кафэ Андрэй Васілеўскі назваў у гонар матулі.

**Андрэй Васілеўскі з вёскі Дзярэчына, што на Капыльшчыне, пачаў свой бізнес з куплі шасці свіней. За 12 гадоў працы на сябе ён адкрыў СТА і кафэ. У планах – будаўніцтва лазні, басейна і крамы.**

Пакуль на СТА рамантуюць машыну, гаспадар можа папіць кавы ў кафэ побач.

Вёска стаіць удалечыні ад райцэнтраў: 20 кіламетраў да Капыля, 35 – да Слуцка, 50 – да Салігорска. У ёй увесь час жыве каля 80 чалавек. Ні клуба, ні крамы, транспарт у райцэнтр не ходзіць. Моладзь з'язджае, старыя ціха дажываюць.

Андрэй Васілеўскі пасля школы скончыў ПТВ па спецыяльнасці "трактарыст-машыніст", да войска працаваў у родным калгасе.

– З войска вярнуўся дахаты на пачатку дзевяностых, – расказвае Андрэй. – Ні працы, ні зарплаты. Працаваў трактарыстам, слесарам-аператарам, потым некалькі гадоў – будаўніком у Беларусі і Расіі.

Стаміўшыся туляцца, Андрэй асеў у Капылі. Браўся за кожную працу. Але ні дастатку, ні маральнага задавальнення не атрымоўваў.

### Бізнес пачаўся з шасці свіней

– Рашэнне пераехаць у вёску паўстала не проста так, – кажа Андрэй. – Захварэлі бацькі, трэба было весці гаспадарку.

Вярнуўся ў вёску Андрэй у 2005 годзе. Эканоміць сямейны бюджэт дазваляла асабістая гаспадарка: куры, качкі, трусы, карова, свой гарод.

Аднойчы Андрэй заняў грошы ў родных і знаёмых і купіў шэсць свіней. З іх і пачаўся шлях у прадпрымальніцтва. За тры гады пагалоўе свіней павялічылася да 60. Мяса прадаваў спачатку скупшчыкам, а потым сам стаў гандляваць на рынку. Чысты прыбытак тады складаў каля 10%.

У 2007 годзе Андрэй пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. З'явілася гаспадыня і памагатая ва ўсіх справах. У 2009 годзе аформіў ІП. Прыбыткі сям'і паступова павялічваліся. Чысты прыбытак ад гаспадаркі за вылікам усіх выдаткаў складаў 20-25%. На рынку я прадаваў у месяц па 10-15 свіней. У 2013 годзе сям'я купіла цялят і коней.

Бяда прыйшла ў 2015 годзе. Гаспадарка страціла ўсіх свіней з-за чумы і панесла вялікія страты. Свіней вырашылі больш не разводзіць.

### СТА – больш надзейны бізнес

У 2015 годзе сельсавет выставіў на гандаль былы сельскі клуб. Прапанова здалася Андрэю цікавай. У 2016 годзе ён прадаў усіх коней і бычкоў, каб купіць будынак і зрабіць рамонт. Апроч таго, узяў у банку крэдыт па праграме развіцця малога бізнесу – 30 мільёнаў рублёў аформіў на сябе, 45 мільёнаў – на жонку (да дэнамінацыі).

Рэшткі старога клуба абышліся Андрэю ў 50 мільёнаў недэнамінаваных рублёў. Амаль год ішоў рамонт, будаўніцтва і ўпарадкаванасць тэрыторыі. У верасні 2016 года адкрылася СТА, а 26 снежня – кафэ. Тут працуюць два чалавекі: повар і жонка Андрэя. Днём у будні ў кафэ наведнікаў мала, часцей мясцовыя прыходзяць купіць нешта з прадуктаў. На кубак кавы ці гарбаты заглядваюць гаспадары машын, якія чакаюць заканчэння рамонту.

Бліжэй да вечара прыязджаюць моладзевыя кампаніі з пяці-дзесяці чалавек з навакольных вёсак, Салігорска і Капыля. Іх прыцягваюць зніжкі і цэны, якія ніжэй за кошт выкарыстання гародніны і садавіны з уласнага падворка.

У выхадныя дні ў кафэ людна: ладзяць вяселлі, дні народзінаў, памінкі. Абеды на 30 чалавек гатуе жонка, але калі заказаў шмат, Андрэй дадаткова запрашае повара.

У планах Андрэя – пабудаваць поруч з кафэ дзіцячую гульнявую пляцоўку, лазню з саўнай і басейнам, краму.

**Ала ВІСЛАВУС,**
**"Інфа-Кур'ер", Слуцк.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.03 | 15.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9714 | **1,9589** |
| Еўра | 2,4241 | **2,4241** |
| Злоты, 10 | 5,7968 | **5,7511** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4524 | **3,4422** |
| Грыўня, 100 | 7,4449 | **7,5097** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **6.03** | **14.03** |
| Еўра | 2.4180/2.4290 | 2.4100/2.4320 |
| Долар ЗША | 1.9660/1.9760 | 1.9480/1.9680 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 6.03 | 14.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,95 | **19,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,95 | **2,35** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,95** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,30 | **5,50** (салёны) |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | 4,50 | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,35** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,00** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. С1 | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,80 | **4,00** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,69 | **0,75** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **3,90** ("Кішміш") |
| Гранаты, 1 кг | 4,30 | **5,50** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,50 | **3,00** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 1,90 | **3,20** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,20** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,60** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 2,00 | **2,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **8,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Слухайце выратавальнікаў і не панікуйце: як паводзіць сябе падчас паводкі

МАЛАДЗЕЧНА

Каб засцерагчы сябе і сваіх блізкіх у перыяд паводкі, трэба выканаць нескладаныя рэкамендацыі ратавальнікаў.

Шаноўныя жыхары Маладзечаншчыны, ратавальнікі нагадваюць:

у перыяд паводкі кожны грамадзянін павінны загадзя падрыхтавацца да сустрэчы са стыхіяй. Вывучыце меры бяспекі і шляхі магчымай эвакуацыі. Падрыхтуйце запас ежы, пітной вады, лекаў, цёплых рэчаў, гумовы абутак. Перасуньце мэблю, пабытавае электраабсталяванне, каштоўныя рэчы ў недаступнае для вады месца.

Апавяшчэнне насельніцтва пра пагрозу затаплення мясцовасці, рэкамендацыі пра бяспечныя паводзіны будуць праводзіцца загадзя. Таму, калі вы пачулі сігнал абвесткі, уважліва яго праслухайце. Выконвайце ўсе рэкамендацыі выратавальнікаў. Апавясціце суседзяў, дапамажыце дзецям і старым.

Памятайце, пакідаць дом, кватэру рэкамендуецца толькі ў выпадку атрымання дырэктывы штаба грамадзянскай абароны пра эвакуацыю ці ў выпадку экстраннага яе правядзення працаўнікамі ратавальных службаў.

Пры эвакуацыйных мерапрыемствах не спрабуйце змяніць ці "зрэзаць" шлях. Бярыце з сабой толькі самыя патрэбныя рэчы. І галоўнае, не паддавайцеся паніцы.

**Валянціна СОПАТ, інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС.**

## Хацеў запаліць пліту – апёк шыю, рукі і твар

МАЛАДЗЕЧНА

1 сакавіка ў маладзечанскую бальніцу трапіў 45-гадовы мужчына з апёкамі 25% цела.

Высветлілася, што ў вёсцы Цюрлі, на кухні аднаго з прадпрыемстваў, мужчына распальваў газавую пліту.

Адбылая ўспышка газа-паветранай сумесі. У выніку мужчына атрымаў тэрмічныя апёкі.

**Паводле сайта МНС.**

## У Ашмянскім раёне на пажары загінуў пенсіянер

АШМЯНЫ

Раніцай 4 сакавіка ашмянскія ратавальнікі выязджалі на пажар у вёску Войцехава.

Прыбыўшы да месца выкліку, яны выявілі ўзгаранне ў сярэдзіне драўлянай жылой хаты. Каля 15 хвілін пайшло на ліквідацыю пажару. Агонь паспеў пашкодзіць перакрыцце, сцены і маёмасць.

Высветлілася, што ў хаце жыў пенсіянер. У мужчыны было не ўсё ў парадку са здароўем. Яго аднавяскоўец увесь час аказваў дапамогу па гаспадарцы. У гэту раніцу ён падпаліў печку і пайшоў па сваіх справах. Калі вярнуўся – хата ў дыме.

Аднавяскоўец некалькі разоў заходзіў у сярэдзіну, каб адшукаць гаспадара. Разам з падаспелымі на дапамогу мясцовымі жыхарамі яны знайшлі пенсіянера недалёка ад уваходу. Медыкі канстатавалі смерць пагарэльца. Агнём пашкоджанае перакрыцце, сцены, маёмасць.

**Паводле сайта МНС.**

## Лёд моцны, але рыбакам нагадваюць пра небяспеку

ВІЛЕЙКА

На Вілейскім вадасховішчы лёд па-ранейшаму моцны, прыкладна 30 сантыметраў таўшчынёй, распавялі карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты" 12 сакавіка ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Рыбакоў шмат, асабліва ў выхадныя. Шмат у якіх месцах на лёдзе ёсць вада. Адліга і туман паступова разбураюць лёд, таму зусім хутка ён стане небяспечным.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Мінску мужчына загінуў, рамантуючы дома мікрахвалёўку

Сталічныя следчыя высвятляюць акалічнасці смерці 30-гадовага мужчыны ў Мінску.

12 сакавіка ён вырашыў адрамантаваць сваю мікрахвалёўку, але не дастаў шнур з разеткі. Дакрануўшыся адвёрткай да корпуса, ён атрымаў удар токам.

Выратаваць мужчыну не ўдалося.

Следчы камітэт звяртае ўвагу, што шэраг элементаў мікрахвалёвак знаходзіцца пад высокай напругай да 4 кВ.

**Паводле "Нашай Нівы".**



# Пенсіянер прапанаваў жанчынам заплаціць за сэкс:

## застаўся і без сэксу, і без грошай

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося яшчэ на пачатку лютага ў Вілейцы. У адзін з шматкватэрных дамоў зайшлі з баўламі тры смуглыя жанчыны 30-35 гадоў. Яны тэлефанавалі ва ўсе кватэры і прапаноўвалі гаспадарам купіць у іх пасцельныя прыналежнасці.**



Фота youtube.com/

У баўлах жанчын былі коўдры і падушкі.

– Аднак жыхары не спяшаліся пускаць жанчын у свае кватэры: многіх бянтэжыла нeславянская знешнасць і смуглы колер твараў гандлярак, нават ярка рудыя валасы адной з іх зусім не ратавалі становішча. Мабыць, людзі атаясамлялі гандлярак з варажбіткамі, якія за "Пазалаці ручку" прапаноўваюць расказаць усю праўду, – паведамляе міліцыя Мінскай вобласці.

У рэшце рэшт, адзін з жыхароў, мужчына каля 80 гадоў, на прапанову купіць што-небудзь з пасцельных рэчаў, запрасіў жанчын у сваю кватэру. Азнаёміўшыся з асартыментам і выбраўшы ўпадабаныя яму коўдру і падушкі, мужчына пагадзіўся набыць іх за 300 рублёў.

Разам з жанчынамі ён прайшоў у спальню, дзе з кішэні паліто дастаў пачак 50-рублёвых купюр і паабяцаў, што яны змогуць зарабіць яшчэ больш, калі пагодзяцца задаволіць яго сэксуальныя фантазіі.

Нядоўга думаючы, адна з іх пагадзілася на прапанову і пацікавілася, дзе ў кавалера знаходзіцца ванны пакой. Жанчына паскардзілася, што не цячэ гарачая вада, пенсіянер паспрабаваў разабрацца.

Пакуль ён вырашаў праблемы з вадой, дзве жанчыны сышлі.

– Аднак калі на парозе спальні з'явілася яго абранніца і не ўбачыла сваіх сябровак, то яе энтузіязм імгненна вычарпаўся і яна заявіла, што сам-насам з мужчынам у кватэры не застанецца. Хутка апрануўшыся, жанчына адправілася ўслед за сяброўкамі. Пенсіянер не моцна знерваваўся, бо і сам быў не асабліва ўпэўнены, што ў іх нешта атрымаецца.

**Праз некаторы час, западозрыўшы няладнае, мужчына кінуўся да шафы: 2000 рублёў у кішэні паліто – як не было, – распавядаюць міліцыянеры.**

У выніку пенсіянер набраў 102. Аператыўнікі крымінальнага вышуку апыталі пацярпелага і іншых жыхароў. Усе апытаныя сыходзіліся на думцы, што жанчынам 30-35 гадоў. Дзякуючы размешчаным непадалёк ад дома камерам відэаназірання атрымалася ўстанавіць, што гандляркі ездзілі на аўтамашыне серабрыстага колеру падобнай на "Пежо-806".

Цяпер іх шукаюць. Калі хтосьці пазнаў жанчын, просьба паведаміць у УУС Мінскага аблвыканкама па тэлефонах:

**8 (017) 229 06 87,**
**8 (025) 774 11 58.**

**Паводле "Нашай Нівы".**

## Школа заплаціла кампенсацыю сям'і вучаніцы, якая загінула на бульбе

МАЛАДЗЕЧНА

**Сярэдняя школа №11 Маладзечна выплаціла кампенсацыю бацькам дзяўчынкі, якая загінула на капанні бульбы – 15 тысяч рублёў. Яшчэ 35 тысяч застаюцца павінны ў СВК "Хоўхлава".**

Нагадаем, што ў сярэдзіне студзеня суд вырашыў пытанне пра кампенсацыю маральнай шкоды сям'і загінулай дзяўчынкі: прадпрыемства "Хоўхлава", дзе працаваў кіроўца грузавіка, абавязалі заплаціць 35 тысяч рублёў, а школу №11 – яшчэ 15 тысяч.

Дырэктары былі агарошаны гэтым рашэннем суда. У "Хоўхлаве" казалі, што гэта сума – амаль месячны заробак усіх работнікаў. А школа існуе за сродкі, якія выдзяляе аддзел адукацыі райвыканкама, і ў самой няма ні капейкі.

Тым не менш, паводле слоў прадстаўніка незалежнага прафсаюза **Леаніда Судаленкі**, прыгавор суда бакі не абскардзілі.

Школа заплаціла ўсю суму яшчэ некалькі тыдняў таму. Адкуль узялі грошы, там не ўдакладняюць.

– Правялі пэўную работу, гэта нашы ўнутраныя справы. Галоўнае, што мы выканалі прыгавор суда і выплацілі сям'і кампенсацыю, – расказаў дырэктар СШ №11 **Аляксандр Люлькові**ч.

Другой часткі кампенсацыі, ад ААТ "Хоўхлава", родныя загінулай школьніцы пакуль не дачакаліся.

– Мы адпраўлялі дакументы ў Мінск. Там супрацоўнікі аддзела прымусовага выканання кажуць, што грошы спагоняць праз суд (са штрафам і пеняй), – расказаў бацька дзяўчынкі **Алег Папчэня**.

На самім прадпрыемстве TUT.BY удакладнілі, што пакуль не атрымалі ўсіх патрэбных дакументаў для пераводу грошай. Пытанне, ці ёсць чым плаціць, засталося без адказу.

– Будуць дакументы – будзем вырашаць. Дагавор суда мы не абскардзілі і будзем плаціць, як казалі з першага дня, – заявіў дырэктар ААТ **Андрэй Стадуб**.

Нагадаем, што 29 верасня 2016 года падчас уборкі бульбы пад Маладзечнам загінула вучаніца восьмага класа школы №11 13-гадовая Вікторыя Папчэня. На яе наехаў грузавік.

Кіроўцу прысудзілі да трох гадоў абмежавання волі. А двух настаўніц школы за недагляд – да двух гадоў абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову. Бацькі Вікторыі імкнуліся даказаць у судзе, што паміж дзяўчынкай і гаспадаркай "Усход-Агра" былі працоўныя адносіны. Аднак не даказалі гэтага. Мінскі абласны суд разгледзеў касацыйныя скаргі на рашэнне Маладзечанскага суда аб адсутнасці працоўных адносін паміж загінулай падчас уборкі бульбы школьніцай і СВК "Усход-Агра" і пакінуў рашэнне без змянення.

**Пjaводле tut.by і ўласная інфармацыя.**

# Кожнаму трэцяму трэба донарская кроў

## Чаму быць донарам не толькі важна, але і прэстыжна

**Кожны дзень у Маладзечне патрабуецца донарская кроў. Мінская абласная станцыя пералівання крыві, якая знаходзіцца ў Маладзечне, запрашае паспрабаваць, ці зможаце вы стаць адным з іх.**

### Ці бывае лішняя кроў

Цяпер хворым часцей пераліваюць не проста кроў, а яе кампаненты. Калі нізкі гемаглабін і мала эрытрацытаў – пераліваюць толькі эрытрацытарную масу. І нарыхтоўваюць таксама кампанентамі. У кагосьці бяруць трамбацыты, у іншых – плазму. З часткі плазмы рыхтуюць і іншыя кампаненты, напрыклад, фактары згортвання, з плазмы атрымліваюць альбумін.

На станцыі ў Маладзечне кампаненты збіраюць, а для вырабу кампанентаў яе перавозяць у Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр трансфузіялогіі і медыцынскіх тэхналогій. Там перапрацоўваюць, атрымліваюць прэпараты і дасылаюць ва ўстановы аховы здароўя.

Лішняй крыві ніколі не бывае, і ніколі не бывае так, каб кроў не спатрэбілася ці сапсавалася. Планы па збору крыві складзеныя так, каб не збіраць лішняе, і ў той жа час, каб хапіла.

### Якая кроў самая папулярная

Усяго чатыры групы крыві, у кожнай два рэзус-фактары. Гэта ўжо восем відаў. А кроў нарыхтоўваюць з улікам таго, як тыпы крыві прапарцыйна размеркаваны сярод насельніцтва. У краінах Усходу часцей сустракаецца трэцяя група крыві, у Беларусі – другая. Калі эвалюцыйна разглядаць, то спачатку з'явілася першая група крыві, а самы малады тып – чацвертая. Прыкладна па 35 % складае другая і трэцяя групы, больш за 15% – прадстаўнікі першай групы, астатнія – чацвертай. Працэнтныя суадносіны могуць вагацца ў розных раёнах, але карціна прыкладна такая.

Людзей са станоўчым рэзусам 85%, і толькі 15% – з адмоўным. Таму знайсці донара з адмоўным рэзусам больш складана. Кроў з адмоўным рэзусам у крайнім выпадку можна пераліць чалавеку са станоўчым, а вось наадварот нельга. А першую рэзус-адмоўную групу называюць універсальнай, таму што яе можна пераліць усім.

Здараюцца сітуацыі, калі раптам ва ўсе бальніцы паступаюць пацыенты менавіта з першай групай крыві. Тады дадаткова запрашаюць донараў, прапаноўваючы здаць кроў тэрмінова.



Руслан Габрыновіч пачаў здаваць плазму ў 2000 годзе, як толькі вярнуўся з арміі. На станцыі пералівання крыві працавала мама. У 2009 стаў Ганаровым донарам. У мужчыны другая група крыві са станоўчым рэзусам. Здае праз два тыдні. Некаторыя здачы робіць бязвыплатна.

### Донарам становіцца толькі палова ахвотных

Стаць донарам можна аднойчы, але часцей тыя, хто здаваў кроў, працягваюць гэта рабіць рэгулярна. Медыкі ўважліва сочаць, каб чалавек аднавіўся пасля папярэдняй здачы. Здаваць кроў можна не часцей, чым раз на два месяцы. Хаця клеткавы склад крыві цалкам аднаўляецца цягам месяца. Плазму можна здаваць часцей.

Стаць донарам можа далёка не кожны, патрабаванні вельмі строгія. З дзесяці чалавек пасля праверкі донарамі становяцца чатыры-пяць. І многія з іх пасля становяцца Ганаровымі донарамі – тымі, хто здаў кроў 40 разоў.

За адну здачу крыві ў чалавека збіраюць 450 мілілітраў, да яе дадаюць кансервант і захоўваюць у спецыяльным пакеце на 500 мілілітраў. Там будзе прыкладна палова эрытрацытарнай масы і палова плазмы. Некаторыя здаюць толькі плазму. Працэдура адбываецца так: сабралі 450 мілілітраў, пакет паставілі ў цэнтрыфугу, раздзялілі на фракцыі. Плазму забралі, а эрытрацыты вярнулі назад.

Каб стаць донарам, трэба ўзяць даведку ад участковага тэрапеўта. Пасля ў станцыі правядуць папярэдні аналіз. Калі кроў задаволіць – чалавек стане донарам. Нельга стаць донарам, калі вы нядаўна пракалолі вушы ці набілі татуіроўку – вярнуцца да тэмы вам дазволяць не раней, чым праз год. У самой аперацыйнай зале донар заняты каля гадзіны.

### Як донарства ўплывае на кар'еру

Быць донарам вельмі прэстыжна ва ўсім свеце. На Захадзе донарства дае не толькі шматлікія бонусы, але і вельмі важна для рэпутацыі. Партнёры з большай ахвотай заключаць кантракт з донарам, таму што гэта гарантыя Яго добрага здароўя і здаровага ладу жыцця. Для некаторых важна не толькі па-чалавечы дапамагчы, але і праверыць, ці зможа стаць донарам ён.

У Беларусі існуе два падыходы да донарства – выплатны і бязвыплатны. Выплатныя залежыць ад колькасці і тыпу сабранага кампанента. Аднак бязвыплатнае донарства не пазбаўляе чалавека выхаднога і выплат на харчаванне. Гэта па-сапраўднаму высакародны падыход да справы. Рэгулярныя донары часта пагаджаюцца на тое, каб некаторыя здачы былі бязвыплатнымі.

Прыкладна кожны трэці чалавек у сваім жыцці рана ці позна сутыкаецца з тым, што яму патрэбная донарская кроў ці яе кампаненты.

# Каб стаць "Міс Лебедзева-2018" – мала быць прыгожай, трэба быць яшчэ і разумнай

МАЛАДЗЕЧНА

8 сакавіка ў Лебедзеўскім Доме культуры было шматлюдна: плакаты і шары з надпісамі: "Каця, ты лепшая!", "Даша, ты наш гонар!"

І немагчыма было схавацца ад той прыгажосці, што ў гэты дзень панавала там. Конкурс прыгажосці "Міс Лебедзева-2018" адбыўся ў свята Вясны. У ім узялі ўдзел пяцёра дзяўчат, вучаніц Лебедзеўскай школы. **Настасся Шумілава, Надзея Бладыка, Кацярына Грыб, Кацярына Юрча і Дар'я Пагуца** пазмагаліся за тытул Міс.

У такіх момантах, вядома, кажуць, што ўсе дзяўчаты – пераможцы і прыгажуні, толькі сэрца журы скарыла Кацярына Юрча, яна і стала "Міс Лебедзева-2018". Аднак перад гэтым дзяўчатам давялося пазмагацца ў прадстаўленні сябе, у конкурсе касцюмаў, дэфіле, конкурсе прычосак, сервіроўцы, у конкурсе этыкету і эрудыцыі. А апошнім конкурсам быў творчы нумар.

Думаю, не памылюся, калі скажу, што Дар'я Пагуца скарыла ўсіх выкананнем песні на ўкраінскай мове. Пра кожную з удзельніц можна сказаць, што яна была лепшай. І чуллівая песня пра маму ад Кацярыны Грыб, і візітоўка з Джоні Дэпам ад Настассі Шумілавай. І прычоска ў выкананні Надзеі Бладыкі.

Таму, калі адбываўся падлік галасоў, журы давялося паспрачацца. Хаця б, здавалася, чаго спрачацца дасведчаным у гэтай справе людзям: фатографу і мастаку **Уладзіміру Цанцавіцкаму**, акцёру **Алегу Чэчаневу**, спеваку **Дзмітрыю Рудыку**, кіраўніцы студыі візажу **Юліі Цімошынай** і спецыялісту Лебедзеўскага сельвыканкама **Жанне Нядзельцы**.

Дзяўчаты былі настолькі прыгожыя, што кожнаму з журы давялося адстойваць сваё меркаванне. Арганізатары прызналіся, што такі конкурс будзе цяпер штогадовым, таму ў кожнай прыгажуні ёсць шанец. І не адзін.

Наталля ТУР.










"Міс Лебедзева-2018" Кацярына Юрча (фота №1) будзе змагацца ў конкурсе "Міс Маладзечна". На фота №2 – удзельніцы конкурсу Дар'я Пагуца, Кацярына Юрча, Надзея Бладыка і Кацярына Грыб. На фота №3 – Настасся Шумілава.

Фота Наталлі ТУР.



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

“Рэгіянальная газета” працягвае праект “Простыя рэчы”. Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта Аксана ЯРАШОНАК.

# “Як можна выкінуць рэчы з бацькоўскай хаты?”

## Віляйчанін стварыў музей ва ўласным двары

ВІЛЕЙКА

**Уздоўж адной сцяны – самыя разнастайныя прасы, уздоўж другой – вагі, зробленыя ў розныя часы ў розных краінах… Свой музей Міхаіл Місюль з Вілейкі абсталяваў проста ў гаспадарчай пабудове на ўласным двары.**

– Цікавасць да калекцыянавання меў з дзяцінства, – распавядае Міхаіл. – Збіраў этыкеткі ад запалкавых карабкоў. Былі розныя серыі: гарады, караблі, самалёты. Нешта з той дзіцячай калекцыі засталося да сённяшняга часу. Цікавасць да даўніны яшчэ і ад таго, што нарадзіўся ў такіх мясцінах. Каля Іжы ў дзяцінстве мы знаходзілі шмат рэчаў часоў Першай сусветнай. Тут жа да 1970-х быў млын.

Бацькі Міхаіла, як ён кажа, “аднагодкі рэвалюцыі”. Жылі ў вёсцы Іжа на Вілейшчыне. Мелі шасцёра дзяцей. Міхаіл – самы малодшы з іх. Шмат рэчаў у музей прыйшло менавіта з бацькоўскай хаты: экспанатаў 50, не менш. Гэта стары чайнік, бацькаў сталярны інструмент, іншыя прылады для рамонту абутку, адзенне і валёнкі, якія бацька сам валіў.

Належаў бацьку і тэбаль – інструмент, якім рабілі дзіркі ў дрэве, каб не круціла бярвенні. Тэбаль быў не ў кожнага, таму да бацькі часта хадзілі вяскоўцы, якія будавалі хаты.

У музеі – матулін калаўрот, рэчы, што яна ткала і вышывала, форма для выпечкі хлеба ў печы. Сячкарня – што была нязменным памочнікам у сялянскім жыцці. Самаробны бязмен, на якім маці важыла лекавыя травы, дарэчы, у фунтах. “Ну, як усё гэта можна выкінуць?”– не разумее мой субяседнік.

### “Усе ад цешчы сала возяць, а я – экспанаты”

З бацькоўскай хаты і самавар. Праўда, на ім не хапае краніка:

– Яшчэ хлопчыкам гуляў “у вайну”, а кранік быў маім пісталетам. Так і згубіўся недзе, – прызнаецца Міхаіл.

**Самавар трапіў у сям’ю бацькоў Міхаіла ад польскага доктара, што працаваў у Іжы. Мама ў таго доктара была служанкай.**

Самавар са знакамітага завода Варанцовых. У 19 стагоддзі каля 80 такіх прадпрыемстваў працавала ў Туле.

Калекцыю папоўнілі рэчы, што Міхаіл прывёз ад цешчы з Салігорскага раёна. Адтуль, напрыклад, нямецкая жалезная скрыня для патронаў з надпісамі і датай – 1939.

– Часцей зяці ад цешчы сала вязуць, – жартуе Міхаіл. – А я – старыя рэчы.

### Пад прасамі гісторыі

І ўсё ж музей мы пачалі аглядаць з калекцыі прасаў. Па словах гаспадара, іх 86. Аднолькавых няма. Ёсць зусім маленькі, які награвалі на вуголлі і прасавалі ім каўнерыкі. Гэты прас зроблены ў Малдове яшчэ да 1940-х. Ёсць вялізны і цяжкі. Ім карысталіся краўцы, каб прасаваць сукно.

Шмат польскіх прасаў фірмы “Славянін конскі”, ёсць таксама і расійскія, і нямецкія, што трапілі сюды ў Першую сусветную. Самы хадавы ў Беларусі, па словах Міхаіла, прас фабрыкі “Лідсельмаш”. Такія рабілі ў Лідзе да 1950-х гадоў мінулага стагоддзя. Прасы розных памераў. Для бытавых патрэб звычайна карысталіся прасам пад нумарам шэсць.

Аднак, па назіраннях Міхаіла, усе прасы зробленыя так, што ім не зможа карыстацца ляўша. Пара, што выходзіць з праса, будзе апякаць руку. Тэарэтычна павінны быць прас для ляўшы. Яго цяпер шукае Міхаіл.

### А вы частаваліся ляндрынкамі?

Пасля рэвалюцыі жыхары Вілейшчыны ездзілі ў Еўропу і Амерыку на заробкі. Вяртаючыся дадому, везлі з сабой нейкія рэчы. Сёння некаторыя з іх – у музеі Міхаіла. Гэта амерыканская прылада для выціскання бялізны 1899 года, стары металічны гадзіннік з птушкай наверсе, карбідная лямпа, металічны ліхтары, упрыгожаны карункамі.

Асобнае месца адведзенае для калекцыі керагазаў. Сёння гэтай прыладай не карыстаюцца, а Міхаіл добра памятае, як мама варыла есці на керагазе. А за газай хадзілі ў спецыяльны “газавы” магазін, што працаваў у Іжы.

У кутку для прыгажунь – папяровая круглая скрыначка ад бэзавай пудры і расчоска для валасоў, зробленая са шчаціны свінні.

– А ці частавалі вас калі-небудзь ляндрынкамі? – пытаецца Міхаіл. – Вось паглядзіце адкуль слова пайшло.

Сярод экспанатаў – бляшаная накрыўка ад бляшаначкі з цукеркамі. На ёй – двухгаловы арол і надпіс “Ландринъ. Петроградъ. Монпансье”. Фабрыку па вытворчасці ледзянцоў прадпрымальнік Георг Ландрын заснаваў у Санкт-Пецярбургу ў канцы 19 стагоддзя.

### Калі знікла святло, запалілі старажытныя лямпы

На гарышчы – працяг музея. Тут старая школьная парта, чарнільніца, калекцыя гадзіннікаў. Побач – фанерны чамадан, з якім сястра майго субяседніка ездзіла паступаць у медвучылішча ў Віцебску. Паспрабавала я падняць той чамадан – і паспачувала дзяўчыне: цяжкая і нязручная рэч.

У музеі Міхаіла былі госці з Казахстана, Украіны, Расіі. Частыя наведнікі – суседская дзятва. Падрастае ўнук, якога, спадзяецца Міхаіл, зацікавіць дзядулева захапленне.

– Калі хтосьці, гледзячы на мае экспанаты, кажа: “О! Гэта ж столькі грошай на іх можна зарабіць”, я тады нічога не расказваю і не паказваю, – дзеліцца Міхаіл.

Праз газету мой субяседнік марыць знайсці такіх самых, як ён, аматараў даўніны: падзяліцца досведам, а магчыма, памяняцца экспанатамі.

Многія з экспанатаў музея да сённяшняга дня выкарыстоўваюцца па прамым прызначэнні: напрыклад, сусед час ад часу можа зазірнуць за патрэбным гаечным ключом.

А калі летась у Вілейцы з-за аварыі на падстанцыі знікла святло, у сям’і Місюлёў не адчулі нязручнасці: проста запалілі некаторыя экспанаты з вялікай калекцыі лямпаў.

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.



У калекцыі Міхаіла 86 прасаў. Гэты – самы маленькі. Яго выкарыстоўвалі, каб прасаваць каўнерыкі.



Гэту лямпу ў Вілейку прывезлі з Францыі ў 1920-30-я гады.




Назва ледзянцоў-ляндрынак паходзіць ад прозвішча Ландрын.



Вольны час Наталля і Дзмітры праводзяць з дзецьмі на свежым паветры.






У сям'і няма машыны, але ёсць пяць ровараў.

# У гадзіну нарадзілі дачку, а ў тры ўжо былі дома

## Ураджэнка Вілейкі – пра тое, як нараджаюць і гадуюць дзяцей у Даніі

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

**У гэтай краіне дзяржава стымулюе мужчын ісці ў дэкрэтны адпачынак. Ім нават грошай плацяць больш, чым маме. А дзяцей у яслі можна аддаваць ад сямі месяцаў.**

Пра што яшчэ распавяла "Рэгіянальнай газеце" **Наталля Лапіцкая**, ураджэнка Вілейкі, доктар, шматдзетная мама, якая некалькі год жыве ў Даніі.

### У школах вяжуць і займаюцца кавальствам

У сем месяцаў тут сапраўды можна аддаць дзіця ў сад. Але часцей аддаюць у 10-11 месяцаў. Нагадаем, што дэкрэтны адпачынак у Даніі доўжыцца год.

У яслях групы па 13 чалавек. На іх – дзве нянькі і дзве выхавальніцы. Ад трох год дзяцей пераводзяць у садок – тут каля 20 чалавек. Для іх – дзве выхавальніцы і адна нянька. За яслі трэба плаціць каля 300 еўра на месяц. За садок – каля 500. Калі ў садок ходзіць адно дзіця з сям'і, сюды без чаргі бяруць яго братоў і сясцёр.

– Беларускае выхаванне мне падабаецца больш, – дзеліцца Наталля. У Даніі дзецям шмат дазваляюць, менш патрабуюць ад іх. Да трох-чатырох гадоў дзеці ходзяць у падгузніках. У садках мала вучацца і шмат гуляюць.

Школы тут больш распаўсюджаныя прыватныя. Каб патрапіць у такую, трэба запісвацца ледзь не ад нараджэння. Прычым запіс платны: 15 еўра на год. Значыць, калі ты запісаў дзіця ў тры гады, трэба два гады плаціць, каб дзіця не выкраслілі "з ліста чакання".

– Сваю дачку **Ніну** мы запісалі адразу ў пяць школ, – прыгадвае Наталля. – Калі прыйшоў час, месца для яе знайшлося ў дзвюх. – Цяпер Ніна ходзіць у нулявы клас. Школа займаецца па канцэпцыі Waldorf. Дзеці абавязкова іграюць на музычных інструментах, шмат робяць рукамі: вяжуць, сталярнічаюць, займаюцца кавальствам. Мала працуюць з камп'ютарам.

За дзяржаўную школу плаціць не трэба. Толькі 100-150 еўра на месяц за прадоўжаны дзень. У прыватных школах 200 еўра плацяць за навучанне. У школе вучацца дзевяць або дзесяць год. У гімназіі і ўніверсітэты ў Даніі паступіць лягчэй, чым у Беларусі.

**Ні ў садку, ні ў школе выхаванцаў не кормяць. Кожнаму дзіцяці бацькі павінны даць па дзве каробачкі з ежай.**

– Канешне, мне не падабаецца гэта, – дзеліцца Наталля. – З сабой можна даць бутэрброды, садавіну, агародніну. Атрымліваецца сняданак і абед турыста. Кожны вечар я збіраю шэсць такіх каробачак.

### Жанчын угаворваюць нараджаць дома

У сям'і дзеці чуюць тры мовы – дацкую, англійскую і рускую. Англійскую мову Наталля і яе муж добра ведаюць таму, што займаюцца навукай. Наталля ўжо абараніла кандыдацкую дысертацыю, **Дзмітры** рыхтуецца да абароны.

Усім сем'ям, незалежна ад іх даходаў, плацяць грошы на дзяцей да сямі гадоў. На дзіця да трох год бацькі атрымліваюць 500 еўра, ад трох да шасці гадоў – 300 еўра, ад шасці да сямі – 200. Гэтыя выплаты робяць чатыры разы на год.

Вялікі плюс Даніі, на думку Наталлі, – гэта абсалютна бясплатная медыцына. Платна – толькі пластычная хірургія і спартыўная медыцына. Лечаць усіх аднолькава добра. Усе, хто афіцыйна жыве ў Даніі, застрахаваныя дзяржавай.

У краіне на дзяржаўным узроўні робяць усё, каб жанчына нараджала дома, калі няма паталогіі. Падчас родаў бальніца дасылае на дом акушэрку. Нават калі жанчына нараджае ў бальніцы, роды тут "амбулаторныя".

– У бальніцу забіраюць тады, калі роды ўжо ідуць поўным ходам, – распавяла Наталля. – Кладуць адразу ў радзільнае аддзяленне. Калі я нараджала малодшую, **Лізу**, у бальніцу нас забралі бліжэй да абеду. У гадзіну я нарадзіла, а ў тры мы ўжо былі дома. Нават паспелі забраць з садка старэйшых дзяцей. Муж заўсёды прысутнічае на родах. Тут так прынята.

### Першыя 14 дзён жыцця дзіцяці – у дэкрэтным і мама, і тата

Калі пасля нараджэння дзіцяці ў дэкрэтны ідзе бацька, яму плацяць больш грошай. А ў першыя 14 дзён пасля родаў бацьку абавязкова даюць дэкрэтны разам з мамай. Пры гэтым цалкам аплачваюць яго.

Муж Наталлі быў у дэкрэтным з усімі трыма дзецьмі. Цікавая асаблівасць дэкрэтнага ў Даніі, што пасля шасці месяцаў яго можна адкласці і ўзяць у іншы час, пакуль дзіцяці не споўніцца дзевяць год. У Наталлі і Дзмітрыя ўжо "адкладзеныя" два месяцы.

У вольны час сям'я гуляе разам на свежым паветры. Іх дом стаіць на ўзбярэжжы мора. Побач – невялічкі букавы лес. Але такога лесу, які быў на Вілейшчыне, тут Наталлі не хапае.

Муж Наталлі родам са Смаргоні. У родных гарадах Наталля і Дзмітры бываюць мінімум два разы на год: зімой і летам. На канікулах у бабуль гасцююць іх дзеці.

– З вілейскага жыцця асабліва ярка помніцца вучоба ў школе №3, любімыя ўрокі хіміі, класны кіраўнік **Алена Дубовік**, выкладчыца скрыпкі **Людміла Шагава**, – прыгадвае Наталля.

У Вілейку жанчына прыязджае яшчэ і для таго, каб ушанаваць памяць бацькі – вядомага на Вілейшчыне журналіста **Яўгена Лапіцкага**, якога няма ўжо дзесяць год.

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота забяспечаныя Наталляй ЛАПІЦКАЙ.

## "Калі б нарадзілася раней, закахалася б у Багдановіча"

### У Маладзечне правялі сустрэчу з пісьменніцай Марыяй Шэбанец

МАЛАДЗЕЧНА

**6 сакавіка ў філіяле бібліятэкі, што па Будаўнікоў, 24, правялі сустрэчу з паэткай і празаікам Марыяй Шэбанец.**

Свой расповед пісьменніца пачала не з біяграфіі, а з верша "Манькаўшчына". Твор пра аднайменную вёску крыху ў жартаўлівай форме нібы растлумачыў імя пісьменніцы, яе любоў да вёскі і да Беларусі ўвогуле.

Вясковай тэматыцы прысвечаная паэма Марыі "Страчаная краіна". "Чытаць яе ўсю не буду, не палохайцеся," – супакоіла паэтка тых нешматлікіх навучэнцаў адной з сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, што сабраліся на сустрэчу. У аўтарскім выкананні гледачы пачулі ўрывак з паэмы.

Па словах Марыі, сустрэчу яна прысвяціла барацьбе з дэпрэсіяй. На яе думку, вельмі дзейсны сродак такой барацьбы – гэта творчасць. І не важна якая. Хтосьці напіша верш, хтосьці намалюе карціну, а хтосьці спячэ смачны пірог.

Сваім гледачам Марыя расказвала пра тое, як змагаецца з часам і як любіць адзіноту. Ёй, шматдзетнай маме, нялёгка знайсці хвілінку адзіноты для сябе. Таму вершы Марыя піша "паза часам": у чэргах, у аўтобусах, на прыпынках. А адзіноце паэтка складае оды.

Што натхняе Марыю на творчасць? Сны, пачуцці і людзі. Творчасцю **Максіма Багдановіча** Марыя захапілася яшчэ ў школе. Пазней напісала верш, прысвечаны паэту. Верш трапіў да паэткі ў Анапу, тая пераклала яго на рускую мову. А мясцовы кампазітар напісаў музыку. Цяпер пра нашага Багдановіча спяваюць у Расіі.

Са школьнага жыцця Марыя прыгадала яшчэ і тое, што аднакласнікі не любілі яе – дзяўчынку, якая ўвесь час пыталася ў настаўніцы: "Ну, калі ўжо мы будзем пісаць сачыненне?"

Яшчэ адна асоба, лёс якой лёг у твор Марыі, – **Міхал Клеафас Агінскі**. Аўтарка пафантазіравала і ўявіла, як бы адчуў сябе колішні ўладальнік Маладзечна, глянуўшы праз стагоддзі на сучасны горад.

Вершы Марыі перапляталіся з яе расповедамі пра сябе, пра тое, як пішуцца вершы і проза. Апошнім часам аўтарка пачала актыўна праяўляць сябе менавіта ў прозе:

– Днямі атрымала свой першы ў жыцці ганарар – 30 рублёў за апавяданне, надрукаванае ў адной з газет, – пахвалілася Марыя.

На сустрэчы было шмат музыкі. Маша сціпла папярэдзіла, што іграе на самых простых гітарных акордах. Але музыку да ўласных вершаў піша сама.

Як загадку для гледачоў Марыя выканала песню ад імя аднаго фальклорнага персанажа. А публіка павінна была здагадацца, чыімі ж вуснамі спявае Марыя.

Персанаж той быў Русалка. Але загадку Марыі ніхто з навучэнцаў не разгадаў. Ды і самі яны не пажадалі задаць шчырай і таленавітай аўтарцы ніводнага пытання. Можа, арганізатарам варта запрашаць на падобныя сустрэчы больш зацікаўленую публіку?

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.



Першую кніжку з дамашняй бібліятэкі Марыя прачытала ў чатыры гады.

# "Трэба скінуць з вачэй тканіну бяспамяцтва"

### У Вілейцы адкрылі выставу мастака Эдуарда Мацюшонка

ВІЛЕЙКА

**10 сакавіка ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча ў Вілейцы адкрылі выставу мастака Эдуарда Мацюшонка.**



Выстава "Дома" адкрывалася працамі, прысвечанымі Глыбоччыне.

Выставу пад назвай "Дома" мастак прысвяціў уласнаму юбілею.

– Добры дзень, паважаныя і родныя мае людзі, – пачаў адкрыццё выставы Эдуард Уладзіміравіч.

А пасля растлумачыў, што значыць для яго панятак "Дома". Гэта месца, дзе закапаныя пупавіны, дзе жылі бацькі, бабуля і дзядуля. Гэта зямля – гарады, імёны, постаці, што паўплывалі на светапогляд.

Для Эдуарда Мацюшонка адной з такіх асоб стаў мастак **Язэп Драздовіч**. Ён быў частым госцем у хаце дзеда мастака, бо сябраваў з ім.

Пачыналася экспазіцыя з сімвалічных рэчаў: старога люстэрка, якое нібы захоўвае адлюстраванні ўсіх, хто глядзеўся ў яго; ключа ад таго самага куфра, у якім у бацькоўскім доме мастака захоўваліся важныя рэчы. Тут жа карціны "Бацькам прысвячаецца" і "Каўчэг". У іх – тэма малой радзімы аўтара, вёскі Мнюта, што на Глыбоччыне.

На наступным палатне – помнік 16 стагоддзя, касцёл у Задарожжы на Глыбоччыне. Тут хрысцілі дзеяча беларускага адраджэння **Вацлава Ластоўскага**, пазней – Эдуарда Мацюшонка. Гісторыю касцёла на імпрэзе распавёў сын мастака **Уладзімір Мацюшонак**.

– Гледзячы на руіны ранейшых сядзіб, мы з цяжкасцю верым, што некалі тут жылі людзі, мелі знакамітыя прозвішчы і шляхецкія гербы, – адзначыў мастак. – Трэба скінуць з нашых вачэй тканіну бяспамяцтва.

#### Запытайце сёння ў Абадоўцах пра пана Багдановіча

Тканіну з першай карціны "Гаспадар" у літаральным сэнсе зняў гісторык **Сяргей Ганчар**. Гэты твор Эдуард Мацюшонак прысвяціў абадоўскаму пану **Мечыславу Багдановічу**. На адной карціне – і партрэт самога пана, і сціплы сядзібны дом, і шыкоўны гаспадарчы двор, і родавая капліца, і помнік паўстанцам Каліноўскага, пабудаваны на сродкі пана ў Ілі і разбураны ў 1950-х.

– Запытайце сёння ў старых мясцовых жыхароў пра пана Багдановіча. Ніхто не скажа пра яго дрэннага, – распавядаў Сяргей Мікалаевіч. – Згадаюць, што пан быў выдатным гаспадаром, клапаціўся пра сялян, мог даць у сям'ю карову або каня са сваёй стайні. У Абадоўцах была сыраварня, сыры з якой экспартавалі ў Еўропу.

І хоць па дакументах Багдановічы былі палякамі, яны заўсёды размаўлялі па-беларуску, у тым ліку і паўсядзённа ў сям'і. У 1939 пан мусіў кінуць усё і збегчы ў Польшчу, аднак да апошняга ўзгадваў Абадоўцы.



Карціна Эдуарда Мацюшонка "Бацькам прысвячаецца""

#### "Не мы, дык нашы косткі здабудуць незалежнасць"

Наступная карціна – і злятае яшчэ адзін кавалак тканіны. Яго зрывае навуковы супрацоўнік музея **Віктар Тонкавіч**. Карціна называецца "Непакароныя". Яна прысвечаная Сэрвачы і роду Козелаў-Паклеўскіх.

Браты Козелы-Паклеўскія вядомыя як кіраўнікі паўстання Каліноўскага. **Ян** быў у цэнтральным кіраўніцтве, а **Вінцэнт** – кіраўніком Вілейскага павета. Атрад Козела-Паклеўскага разбілі ля вёскі Уладыкі. Тут жа, у брацкай магіле, пахавалі братоў **Міхаіла** і Вінцэнта. Па некаторых звестках, бацька Козелаў-Паклеўскіх перапахаваў сыноў у Сэрвачы.

Кажуць, апошнія словы Вінцэнта перад смерцю былі такія: "Не мы, дык нашы косткі здабудуць незалежнасць".

Падчас вайны палац у Сэрвачы ўзарвалі партызаны.

#### А вы ведалі, як пан Любанскі звязаны з "Буддэталямі"?

Карціну "Любанскія-Любань" прадставіла старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**. Яна распавяла, што сёння на месцы палаца Любанскіх у Любані знаходзіцца цэх, дзе разліваюць мінеральную ваду. І што менавіта Аляксандр Любанскі адкрыў у 1905 годзе ў Вілейцы першае прадпрыемства. Сёння гэта завод "Буддэталі". Як расказаў на выставе дырэктар прадпрыемства **Сяргей Жук**, імя Любанскі Аляксандр Іванавіч – сёння ў брэндзе ViLARIO.

Калі ж уся тканіна бяспамяцтва апынулася на падлозе, пайшлі пажаданні, кветкі і падарункі ад сяброў і калег.

– Сёння Эдуард Мацюшонак даў усім нам адкрыты ўрок памяці, – адзначыў у сваім выступленні мастак, гісторык, заснавальнік музея ў Заброддзі **Барыс Цітовіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.

# "Уся Беларусь прайшла праз гэтыя парогі"

## Ураджэнец Вілейкі – пра адзіную сустрэчу з Барысам Кітом

**У ліпені 2009 года ўпершыню пабываў у Германіі. Двухтыднёвая паездка мела канкрэтную мэту, і я пераважна знаходзіўся ў адным горадзе – Вецлары.**

Але аднаго разу была экскурсія ў Франкфурт-на-Майне. Я ж замест агляду горада скіраваўся да земляка – прафесара **Барыса Кіта**. Суправаджаў мяне іншы зямляк – паэт і перакладчык **Уладзімір Папковіч**, ураджэнец вёскі Дварэц, што на Вілейшчыне ў Хаценчыцкім сельсавеце.

### Націснуў на званок з надпісам "Прафесар Кіт"

Кіту тады было 99 гадоў. Якім ён быў у маім уяўленні? Старэнькі, ледзьве рухаецца. З такімі думкамі і націснуў на званок з надпісам "Прафесар Кіт". Кнопка сярод дзясяткаў іншых падобных. Гэта была кватэра ў пансіянаце для састарэлых. Але знешне нічым не адрозніваўся ад шматкватэрнага дома.

Узнікла замінка. Бо Кіт адказаў нам, але не націснуў на дамафон, каб нас упусціць. Мы стаялі, пакуль не выйшла медсястра. Пасля чакалі ліфт. А як яго дзверы адчыніліся, выскачыў (менавіта так) з яго невысокі і немалады чалавек.

"Барыс Уладзіміравіч!" – усклікнуў я. І ён пачаў з намі абдымацца. Столькі было ў гэтым дзіцячага і блізкага. Нібы сваякі, якія доўга не бачыліся. І прафесар усё не мог устаяць на месцы, пакуль ліфт падымаўся – ледзьве не падскокваў. У свае 99! А як падняліся да яго ў кватэру, размова ішла не менш прыязна, але больш сур'ёзна.

### Пакінуўшы Беларусь 65 год таму, цудоўна гаварыў па-беларуску

Кіт, які на той момант 65 гадоў як пакінуў Беларусь і больш ні разу там не быў, цудоўна гаварыў па-беларуску. Нават без замежнага акцэнту.

"Я вялікі патрыёт Амерыкі", – адказаў прафесар на нашы віншаванні з Днём незалежнасці ЗША. Прыехалі да яго акурат 4 ліпеня. "Я – піянер амерыканскай астранаўтыкі. Я з амерыканцамі будаваў карабель на Месяц", – працягваў Барыс Уладзіміравіч.

У Беларусі, калі згадваюць пра Барыса Кіта, то абавязкова ў звязцы з тым, што ён вынайшаў ракетнае паліва. Маўляў, ён – самы вялікі вучоны ў гэтай галіне. Таму ўяўляеш яго няйначай як мільянерам. За такі высокі ўнёсак у астранаўтыку амерыканскі ўрад мусіў яго асыпаць грашыма.

Кіт – выдатны вучоны. Толькі на радзіме яго заслугі прыўзнесены больш, чым у самой Амерыцы. І з такімі думкамі я ўвайшоў у сціплую аднапакаёўку "мільянера" Кіта.

Падчас размовы некаторыя моманты праясніліся. Усё-ткі гэта не была заслуга аднаго Барыса Кіта, што амерыканцы займелі ракетнае паліва. Працавала каманда. Наш суайчыннік атрымаў заданне.

"Вядомы канструктар ракетна-касмічнай тэхнікі Вернер фон Браўн запускаў ракеты на спірце. Але трэба было вынайсці нешта мацнейшае. І тады да мяне звярнуліся з заданнем, каб я зрабіў поўны аналіз вадароду як магчымага паліва. Працаваў цэлы месяц. І сёння на гэтым паліве лётаюць касмічныя караблі. Мяне гэта праца настолькі захапіла, што я напісаў цэлую кнігу магчымых паліваў".



Барыс Кіт у 2009 годзе.

Фота Сяргея МАКАРЭВІЧА.

### "Я быў добрым амерыканскім акупантам"

Кіт расказваў, як рыхтаваў тую кнігу да выдання. Яму прапанавалі, каб нехта з сусветна вядомых вучоных напісаў уступ – Тэадор фон Карман альбо Вернер фон Браўн. Той самы Браўн, які распрацоўваў ракеты ФАУ пры нацыстах. Пасля заканчэння вайны яго вывезлі ў ЗША, дзе ён займаўся навукай.

Кіт схіліўся да Кармана, аднаго з бацькоў аэрадынамікі. "Ён, такі знакаміты на ўвесь свет, і мяне выцягнуў таксама", – паўжартам-паўсур'ёзна сказаў Кіт.

Тая манаграфія называецца *Rocket Propellant Handbook* ("Кіраўніцтва па ракетным паліве") і напісаная ў суаўтарстве з Дугласам Эвердам. Яна выйшла ў 1960-м.

А ўжо ў 1972-м Кіт прыняў прапанову і пераехаў у Германію (ФРГ), дзе ў амерыканскім універсітэце выкладаў вайскоўцам. У краіне тады было шмат амерыканскіх вайсковых баз. А як адпрацаваў дваццаць гадоў, так і застаўся ў Еўропе.

"Я быў амерыканскім акупантам, – жартаваў Кіт. – Але добрым акупантам".

### Чым больш паважным станавіўся ўзрост, тым менела гасцей

Як Беларусь стала незалежнай, то да яго шмат хто прыязджаць пачаў. "Уся Беларусь прайшла праз гэтыя парогі". Праўда, чым больш паважным станавіўся ўзрост, тым менела гасцей. А яму ўсё яшчэ хацелася гаварыць з землякамі.

…Праз некалькі гадоў я патэлефанаваў Барысу Уладзіміравічу ў яго кватэру на Гросер Хасенпфад. Голас прафесара быў слабейшы. Настрой – песімістычны. Ён гаварыў больш пра смерць. Размова не ішла. І я развітаўся. Праўда, у маёй памяці ён застаўся тым 99-гадовым рухавым чалавекам, які ўвесь час пасміхаўся і чыста гаварыў па-беларуску ў нашу адзіную сустрэчу ў Франкфурце-на-Майне.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ.**




Каб патрапіць у пакой да Барыса Кіта, трэба было націснуць кнопку з нумарам 612.

Фота Сяргея МАКАРЭВІЧА.

**Даведка "РГ". Барыс Кіт** нарадзіўся ў 1910 годзе на Наваградчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны некаторы час жыў у вёсцы Лебедзева Маладзечанскага раёна. Арганізаваў у Маладзечне гандлёва-адміністрацыйную школу. У 1944 арыштаваны гестапа. Быў зняволены ў турме ў Вілейцы. Ад 1949 года жыў у ЗША. Спрычыніўся да распрацоўкі касмічнага паліва, дзякуючы якому амерыканцы паляцелі на Месяц. Ад 1972 года жыў у Франкфурце-на-Майне ў Германіі. Памёр 1 лютага 2018 года на сто восьмым годзе жыцця.

### КАЛЯНДАР

**18 САКАВІКА**

**1921.** Паміж РСФСР і Польшчай падпісаная Рыжская дамова, якая тэрытарыяльна падзяліла Беларусь.

**1894.** У вёсцы Барані, цяпер Астравецкі раён, нарадзіўся **Альбін Стаповіч**, беларускі грамадска-палітычны і каталіцкі музычны, свецкі дзеяч. Брат Казіміра Сваяка. Адзін з заснавальнікаў Беларускага кааператыўнага земляробча-прамысловага банка. Кіраўнік Беларускай друкарні імя Францыска Скарыны. Аўтар некалькіх беларускіх песень, у тым ліку гімна Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры "Дзе чутны мовы нашай гукі". Памёр у 1934 годзе і пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

**20 САКАВІКА**

**Дзень вясновага раўнадзенства.** У Індыі гэты дзень супадаў з фестывалем фарбаў. На гарадскіх плошчах збіраліся прадстаўнікі ўсіх каст, дзе спявалі, танцавалі, а таксама абсыпалі адзін аднаго каляровымі парашкамі, выробленымі з мясцовых спецый. У старажытных германцаў забаранялася ў гэты дзень есці мяса. Такім чынам перад пачаткам вясны народ ачышчаўся. Японцы пачыталі памерлых. У Таджыкістане, Казахстане, Узбекістане, Азербайджане, Іране і Афганістане гэты дзень лічыцца афіцыйным святам – "чырвоным" днём календара, там святкуюць Новы год. Людзі просяць адзін у аднаго прабачэння, аддаюць даўгі і арганізоўваюць пышныя гулянні з нацыянальнай ежай.

**Міжнародны дзень астралогіі.** Нягледзячы на тое, што астралогія лічыцца лжэнавукай і асуджаецца большасцю сусветных рэлігій, статыстыка сведчыць аб яе папулярнасці. Псіхолагі тлумачаць гэта тым, што да астралогіі звяртаюцца няўпэўненыя ў сабе людзі, але вось жа парадокс: да паслуг астролагаў звяртаюцца людзі, якія ўжо дамагліся пэўных поспехаў у кар'еры і бізнесе.

**21 САКАВІКА**

**1840.** Нарадзіўся **Францішак Бенядзікт Багушэвіч**, беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, яе класік. Гэта яму належаць словы: "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі". Памёр у 1900 годзе ў Кушлянах, цяпер Смаргонскі раён. Пахаваны ў Жупранах Ашмянскага раёна.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# “Хочаце купіць сабе спакой на цэлы год ад праблемных суседзяў? Пазычце ім грошы”

13 сакавіка ў рэдакцыі “РГ” адбыўся круглы стол на тэму “Правы суседзяў”. У ім удзельнічалі прадстаўнікі райаддзела міліцыі **Сяргей Пузыроў** і **Кацярына Костачка**, начальнік аддзела па зваротах грамадзян “Камунальніка” **Таццяна Мажуль**, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага ЦГЭ **Міхаіл Міхалевіч.** Вяла размову карэспандэнтка “РГ” **Наталля Тур.**



Таццяна Мажуль.



Кацярына Костачка.

## Тыповыя скаргі на суседзяў

**Пузыроў**: 3-4 звароты за дзяжурныя суткі тычацца якраз гучных суседзяў. Мы абавязаныя прыняць паведамленне, выехаць на месца і разабрацца. Калі там людзі гучна размаўляюць, слухаюць музыку, то мы дакументуем і адпраўляем “Камунальніку”. А бывае, заяўляюць пра шум, а там бытавы канфлікт.

Людзі часта скардзяцца, але ёсць такі момант. Калі з усіх суседзяў гэта перашкаджае толькі адной сям’і, то цяжка прыцягнуць чалавека да адказнасці. Ёсць адрасы, адкуль нам пастаянна прыходзяць скаргі і дзе сітуацыі паўтараюцца па крузе. Выязджаем, дакументуем – адпраўляем “Камунальніку”.

**Мажуль**: Калі парушэнне пражывання ёсць, апытваем суседзяў, працуем з дакументамі міліцыі.

**Міхалевіч**: Ёсць абмежаванні па часе. У начны час павінна быць ціха.

**Паводле пастановы Саўміна “Аб карыстанні жылымі памяшканнямі”, карыстацца тэлевізарам і іншымі гучнагаварыльнымі прыладамі можна, толькі зменшыўшы гук да ступені, якая не парушае спакой іншых жыхароў.**

Ад 23 да 7 раніцы нельга рабіць тое, што створыць вібрацыі ў шум (іграць на музінструментах, займацца рамонтам, рэзка зачыняць дзверы і іншае).

**Пузыроў**: У прыватным сектары часта ўзнікаюць пытанні па раздзеле ўчасткаў, як ставіць агароджы. І яшчэ адна праблема – сваркі са знявагай. Даказаць гэта вельмі цяжка, гэта як у садку – слова супраць слова. Аднак калі вас зневажаюць, ніхто не замінае зняць гэта на тэлефон.

**Міхалевіч**: На судзе гэта ўлічваецца, з’яўляецца доказам, што чалавек мае рацыю.

## Ці можна дабіцца кампенсацыі

**Тур**: Пры падрыхтоўцы да стала мы збіралі гісторыі жыхароў з праблемнымі суседзямі. Адна чытачка напісала, што суседка скардзіцца на яе, нібыта у кватэры займаюцца рамонтам аўтамабіляў. Што ім параіце, змірыцца?

**Пузыроў**: Не, трэба змагацца. Размаўляць з суседзямі. Фіксаваць тое, што адбываецца.

**Міхалевіч**: Была адна скаржніца, якая шмат скаргаў пісала на інспекцыю навакольнага асяроддзя. Неўзлюбіла яна суседа, і чаго толькі не выдумляла! І што казу яе атруціў, і шмат іншага. Сусед фіксаваў, прасіў адказваць і пры чарговай скарзе звярнуўся ў суд. Папрасіў кампенсаваць маральную шкоды на 10 мільёнаў на старыя грошы. І яму ўдалося сабраць дакументы так, што суд пастанавіў выплаціць шкоду за неабгрунтаваныя скаргі.



МІхаіл Міхалевіч.



Сяргей Пузыроў.

Трэба займаць актыўную пазіцыю, а не маўчаць.

Калі б тая жанчына, у якой нібыта рамонт аўтамабіляў, зафіксавала, колькі разоў да яе хадзіў “Камунальнік”, “Энерганагляд”, міліцыя і Цэнтр гігіены, і скарга ні разу не пацвердзілася, то магла б несці пакет у суд на паклёп і патрабаваць кампенсацыю.

**Пузыроў**: Калі ж пацвярджаецца сямейна-бытавы канфлікт, ёсць хатні гвалт, мы гэта накіроўваем у суд.

**Костачка**: Нам дадзеная ўстаноўка, што кожны выпадак сямейна-бытавога канфлікту павінны разглядацца як перадумова да забойства. Мы працуем толькі па такім прынцыпе. Затрымліваем да разгляду судом.

Калі раней маглі пазваніць і сказаць, што забіраць не трэба, проста паразмаўляйце, то цяпер з гэтым амаль і не тэлефануюць, таму што мы адразу забіраем.

**Пузыроў**: І колькасць гвалту зніжаецца, таму што ведаюць, чым закончыцца выклік.

**Тур**: А ці няма зваротнага эфекту, што жанчына баіцца, каб не паведамілі на працу, і іншых наступстваў?

**Пузыроў**: На працу цяпер ніхто не паведамляе. Мы імкнёмся сітуацыю выправіць. Але адказаць, што такога няма, не магу. Бывае, што тэлефануюць суседзі. Жанчына можа сама і не хацела званіць, але прыходзім, сямейна-бытавы канфлікт пацвярджаецца.

**Тур**: Як Цэнтр гігіены вырашае пытанні, якія перанакіравала міліцыя?

**Міхалевіч**: Калі міліцыя прыклала да матэрыялу рапарт, заяву, апытанні, факты пацвярджаюцца, то мы выклікаем парушальнікаў для адміністрацыйнага працэсу.

Калі парушэнне санітарных правілаў пагражае здароўю іншых, такіх людзей мы таксама прыцягваем да адказнасці.

У нас нібыта беларуская вендэта, калі непрыязныя адносіны і хочацца насаліць суседу. Цяпер мы прыцягваем у тых выпадках, калі ёсць пагроза здароўю і жыццядзейнасці чалавека.

Сёння ёсць праект спецыфічных санітарных патрабаванняў жыцця ў інтэрнатах. Цяпер будзе абмеркаванне праекта.

Сапраўды, існуе дапушчальны ўзровень шуму, які не выклікае непакою і змяненняў функцыянальнага стану і здароўя. Дзякуючы санітарным нормам і правілам, якія рэгулююць гэта пытанне, мы шмат дапамаглі жыхарам, замяраючы ўзровень шуму ад тэхнагеннага абсталявання. Камусьці не пашанцавала мець спальню над бойлерам, халадзільнікам магазіна ці каля ліфта. Ёсць нормы для начнога

Гукі падчас рамонту не нармуюцца і не вымяраюцца. На такія скаргі ў Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі адказваюць, што дапамагчы не могуць.

шуму і дзённага.

**Тур**: Калі ўзровень перавышаны, што вы робіце?

**Міхалевіч**: Мы можам правяраць толькі з арганізацыямі, якія эксплуатуюць аб'ект, на які скардзяцца. І часта замеры праводзім з прадстаўнікамі "Камунальніка". Паведамляем пра візіт суседзяў, праводзім замеры.

Калі перавышэнні ёсць, пратакол выпрабавання дасылаем у эксплуатуючую арганізацыю з просьбай правесці інжынерна-тэхнічныя мерапрыемствы. У адказ яны адрэгулююць ліфт, бойлеры, а часам дадаюць дадатковую гукаізаляцыю. Такога не было, каб праблему не вырашылі.

## Ці трэба мірыцца з шумам

**Тур**: А калі сусед пасярод ночы вучыцца іграць на скрыпцы?

**Міхалевіч**: Рамонт, брэх сабак, музінструменты, разгрузачныя работы, рамонт не нармуюцца і не вымяраюцца. На скаргі на такія рэчы мы адказваем, што дапамагчы не можам.

**Тур**: І што тады рабіць, змірыцца?

**Міхалевіч**: Не. Ёсць яшчэ правілы карыстання жылым памяшканнем.

**Тур**: А скардзіцца на тое, што суседзі арганізавалі звалку ці прытулак для жывёл?

**Міхалевіч**: У чужую кватэру без санкцыі пракурора зайсці і спраўдзіць нельга. Нават да тых, хто скардзіцца, мы таксама заходзім толькі з дазволу. Але можна дамагацца праз суд іх адсялення. А вы ўяўляеце, што такое выселіць?

**Мажуль**: Але на людзей уплывалі пратаколы і суды. Яны прыводзілі ў парадак жыллё. Калі ёсць запазычанасць па камунальных, гэта іншая тэма. Дакументы на высяленне рыхтавалі.

**Міхалевіч**: Калі пачынаюць рыхтаваць дакументы на высяленне, далучающца сваякі, дапамагаюць, разумееце, што гэта ж губляецца нерухомасць.

**Мажуль**: У "Камунальнік" часцей скардзяцца на шумных суседзяў. Як пасля звароту міліцыі, так і напрамую.

Гэта працаёмкі працэс. Трэба апытаць суседзяў. Хтосьці прызнаецца, іншыя не захочуць псаваць адносіны. Бывае, самі заяўнікі адступаюць: "Раззлавалася і пазваніла, цяпер прэтэнзій не маю, мы ўжо памірыліся з суседам".

**Тур**: Ці ёсць у "Камунальніка" свой кантынгент скаржнікаў?

**Мажуль**: Так. Ёсць такія адрасы. Хаця асноўны пік прыходзіцца на святы.

**Костачка**: У вялікія выхадныя людзям няма чым сябе заняць, напіваюцца і займаюцца лухтой. Для сябе то яны адпачываюць, а для іншых жа шумяць.

**Мажуль**: Сустракаюцца людзі, якім падаецца, што нешта адбываецца. Здараюцца непрыязныя адносіны між суседзямі, іх тады вельмі цяжка памірыць. Бывае, сусед скардзіцца, а чалавек у той час быў у бацькоў зусім у іншым раёне.

**Тур**: А карысныя скаргі бываюць?

**Мажуль**: Ёсць пільныя людзі. Паведамляюць, што бачаць, як падлеткі ходзяць на дах.

**Костачка**: Такога, каб пазванілі са скаргай на шум, а мы прыехалі і зладзеяў затрымалі, не было.

**Тур**: Ці атрымоўвалася памірыць суседзяў?

**Мажуль**: Калі самі між сабой мірыліся. Але калі адміністрацыйны працэс пачаўся, мы не маем права яго спыніць.

**Костачка**: Гэта іх справа мірыцца і наладжваць адносіны ці не, а не наша. У нас ёсць заява – мы працуем.

**Мажуль**: Часам тлумачым, што вам з суседзямі яшчэ жыць. А на эмоцыях можна нагаварыць лішняе.

**Тур**: Давайце разгледзім праблемныя сітуацыі нашых чытачоў. "Нашы суседзі з месцаў пазбаўлення свабоды. Пажылі б хоць месяц з імі тыя, хто селіць такіх праз сцяну з нармальнымі людзьмі".

**Мажуль**: Калі яны не парушаюць правілы пражывання, гэта адно. Калі парушаюць – звяртацца ў адпаведную інстанцыю.

**Костачка**: Гэта яго жыллё. Мы не выбіраем сабе суседзяў. Калі замінае нечым канкрэтным, паведамляйце. А хто іх засяляў? Маюць кватэру і жывуць.

## Калі суседзі зусім не падабаюцца

**Тур**: Ідэальных суседзяў, напэўна, быць не можа. У каго доўгія рамонты, у каго дзеці музыканты. Магчыма, трэба вучыцца знаходзіць кампрамісы з імі, мірыцца? У нас былі суседзі-в'етнамцы, якія пастаянна гатавалі нацыянальную страву – вараны селядзец. Як бы і права маюць, але нам дыскамфорт.

Давайце разгледзім другое пытанне. "У нас суседзі алкашы. Зрабілі прытон. Гадзяць у пад'ездзе, ладзяць дэбошы".

**Міхалевіч**: У першую чаргу трэба звярнуцца ў ЖЭС. Таму што калі пазваць нас і мы ўбачым, што ў месцах агульнага карыстання нагаджана, будзе пакараны майстар гэтага ўчастка. А той, хто гадзіў, можа, яшчэ і будзе рады, што пацярпеў невінаваты.

**Костачка**: А калі апраўлялася натуральная патрэба на людзях, то гэта да нас.

**Міхалевіч**: Асацыяльныя асобы звычайна нічога не баяцца. Ні штрафаў, нічога.

**Костачка**: Ёсць людзі, якія ўсё жыццё п'юць дома. Ніхто ім гэтага не забароніць.

**Тур**: А калі ў пад'ездзе?

**Мажуль**: Гэта ўжо месца агульнага карыстання.

**Тур**: Значыць, калі смецяць у пад'ездзе, распісваюць сцены, мочацца – звяртацца ў ЖРЭУ?

**Міхалевіч**: Яны хаця б паспрабуюць дапамагчы. Часам вылічваюць шкодніка і караюць.

## Кватэры на суткі

**Тур**: Трэцяя сітуацыя: "Пада мной кватэра на суткі. У ноч з 8 на 9 сакавіка было не заснуць. Чаму закон дазваляе ў шматкватэрных дамах разводзіць бардэлі?"

**Костачка**: Калі ўсё аформлена, здаюць кватэру законна. Можна ўдакладніць, ці аформлена.

**Мажуль**: Спачатку паведаміце міліцыі.

**Костачка**: Але праблема можа быць у тым, што пакуль вы будзеце паведамляць, ён раніцай з'едзе, і з каго спытаць? Там за пяць гадзін можа пабыць пяць чалавек.

**Міхалевіч**: Ліцэнзію ім выдаў аддзел гандлю. Тры-чатыры скаргі – і ліцэнзію могуць скасаваць.

**Мажуль**: У нас нядаўна была падобная сітуацыя. Праверылі дакументы – усё зарэгістравана. А скаржнік пайшоў з адказам у пракуратуру. Дапрацавалі. Але спынілі працэс, таму што заспець у момант парушэння не было магчымым. А сам гаспадар кватэры нічога не парушаў. Хаця пытанне неадназначнае. І на якой падставе забраць ліцэнзію?

**Міхалевіч**: Калі пісаць, што гаспадар не праводзіць падрыхтоўчую работу, таму просім забраць ліцэнзію.

**Костачка**: А чаму ён павінны адказваць за іншых людзей? Ён склаў дагавор, што не нясе адказнасці за іх дзеянні. Гаспадар за іх не адказвае.

**Міхалевіч**: Сапраўды, у гэтай сітуацыі ёсць што дапрацаваць.

## Як быць добрым суседам

**Тур**: Як самому стаць добрым суседам?

**Мажуль**: Напэўна, у кожнага свае крытэрыі.

**Міхалевіч**: Трэба паводзіць сябе так, як хочаш, каб сусед паводзіў сябе. Паважаць правы на адпачынак і спакой.

**Костачка**: Калі вы двойчы падыдзеце і папросіце, каб перасталі шумець, на трэці вы ўжо не будзеце па-харошаму прасіць. Ці самі ляпнеце, ці міліцыю будзеце выклікаць. Але заўсёды спрабуйце дамовіцца па-суседску.

**Фота Аксаны ЯРАШОНАК.**



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 7)

# Вучым фрагменты шахматнай дошкі і шахматныя задачкі

**На пачатковым этапе навучання шахматам не толькі дзеці, але і дарослыя пачаткоўцы могуць сабе дазволіць бачыць шахматную дошку толькі фрагментамі. Бачанне шахматнай дошкі цалкам прыходзіць з часам.**

Пастаянна сачыце за ракурсам, пад якім дзіця глядзіць на дошку. У сілу іх маленькага росту, дзеці часта папросту ледзь не кладуцца каля дошкі і спрабуюць нешта бачыць. Магчыма, яны ўжо стаміліся і варта спыніць заняткі. Ракурс павінны быць заўсёды максімальна зверху.

Пра фрагменты. Можна паспрабаваць разрэзаць шахматную дошку на чатыры часткі і даваць невялікія задачы на фрагментах. Гэта дазваляе зэканоміць на шахматным правіянце і спрацідь разуменне задач для дзяцей.

Задачы па шахматах. Акрамя гульнявой практыкі вельмі карысна рашаць шахматныя задачы. У кожнай задачцы крыецца тая ці іншая ідэя. Ніжэй прапаную рашыць задачы, якія прадстаўленыя на фрагменце дошкі. Вы можаце іх расставіць дзецям і на ўсёй дошцы. Рашыць задачу з кнігі яшчэ цяжэй. У прыведзеных прыкладах вучань павінны зрабіць лепшы ход. Можна згуляць як белымі, так і чорнымі. У асноўным, у задачах ужо трэніруюцца навыкі нападу і падвойнага ўдару. Дарэчы, на фрагментах дошкі можна не толькі рашаць задачы, але і гуляць.







## Далучайцеся да конкурсу

Да друку рыхтуецца кніга-дапаможнік пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Дасылайце любыя малюнкі на тэму шахматаў у рэдакцыю на адрас: *222310, Вялікі Гасцінец, 143/518* з пазнакай **"Конкурс малюнкаў пра шахматы"**. Маляваць можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тыя, якія размесціць пасля ў кніжцы.

**Галоўная умова – малюнак павінен паказваць любое шахматнае правіла.**



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Мікалай Мятліцкі: "Я паўтара месяца не мог адказаць гульцам на пытанне, ці будзем мы ў першай лізе"


Фота Наталлі ТУР.

У дзень трэніроўкі паўабаронца Яўген Будай (справа) прымаў віншаванні з днём нараджэння ад галоўнага трэнера Дзяніса Мятліцкага (злева).

МАЛАДЗЕЧНА

**Да пачатку футбольнага сезона застаецца ўсё менш часу. А для футбольнай каманды з Чысці новы сезон – гэта яшчэ новы досвед, бо каманда ўпершыню гуляе ў першай лізе чэмпіянату краіны.**

Як праходзіць падрыхтоўка да сезона, мы пагутарылі з галоўным трэнерам каманды **Дзянісам Мятліцкім**, а пра тое, з якімі цяжкасцямі сутыкнулася каманда падчас падрыхтоўкі, – з яе дырэктарам **Мікалаем Мятліцкім**.

У нядзелю на чысцінскім стадыёне шматлюдна і горача ў літаральным сэнсе, бо штучны газон на полі ўжо зялёны.

Пакуль футбалісты размінаюцца перад пачаткам трэніроўкі, Дзяніс Мятліцкі расказаў, што напярэдадні сезона ён не задаволены колькасцю спарынгаў.

– Іх адсутнасць – гэта тое, што напружвае больш за ўсё. Надвор'е сёлета такое, што на спарынгах хутчэй можна атрымаць траўму, чым убачыць перспектыўнага гульца.

Так адбылося з гульнёй у Смалявічах, куды каманда з Чысці не паехала якраз з-за надвор'я.

– Я запытаўся ў свайго футбаліста, што праходзіць прагляд у Смалявічах, ці можна там гуляць. На што той адказаў, што падчас трэніроўкі на слізкім полі пасліznуўся і два дні амаль не мог хадзіць. Таму толку ад такіх спарынгаў мала. А інфармацыі па новых хлопцах ой, як не хапае.

**Пры гэтым, расказвае Дзяніс Мятліцкі, 70% мінулагодняй каманды "Чысць" ім удалося захаваць.**

– Канешне, былі тыя, хто выбраў работу, так сказаць, стабільнасць. Шмат людзей тэлефануюць, просяць іх паглядзець. Да канца гэтага тыдня мы заключым кантракты з тымі гульцамі, якія нам падышлі. Прозвішчы пакуль называць не буду. Скажу толькі, што нам патрэбныя дасведчаныя гульцы. На гэтым тыдні плануюць прыехаць на прагляд **Сяргей Кошаль** і **Ігар Макараў**.

**Трэніруюцца цяпер у Чысці і чатыры гульцы з ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4". Гэта Юры Бугай, Ігар Талькоўскі, Антон Талстой і Арцём Грыб.**

А між тым, жараб'ёўка першага круга першай лігі адбудзецца ўжо 14 сакавіка.

На якім этапе падрыхтоўкі да атрымання ліцэнзіі знаходзіцца клуб, адказаў яго дырэктар Мікалай Мятліцкі.

– Былі цяжкасці, але гаварыць пра гэта не хачу, бо мы поўныя аптымізму. Так, працы яшчэ шмат наперадзе, але паступова выконваем.

### "Мы адваявалі права быць у першай лізе па спартыўным прынцыпе"

Мікалай Мятліцкі называе пераход ад аматарскай другой лігі да прафесійнай першай балючым.

– Мы самі не ведалі, што так шмат трэба папер, – кажа дырэктар і паказвае на стол, дзе складзеныя горамі неабходныя дакументы. Нам вельмі дапамагае з падрыхтоўкай ФК "Смаргонь". Для іх гэта не ў навіну, таму падказваюць нам, як дакументы афармляць, ды і ўвогуле даюць парады.

Цяжкім было пытанне і з атрыманнем спонсарскай падтрымкі.

– Нарэшце дамовіліся з Радашкавіцкім керамічным заводам, пагутарылі з "Аквадзівам". "Аквадзіў" пагадзіўся падтрымаць маладзевую каманду, якой у нас будзе займацца **Аляксандр Гармаза**.

Мікалай Мятліцкі прызнаўся, што ніколі яшчэ ў яго жыцці не было столькі сустрэч, столькі перажыванняў.

– Сустрэліся з **Сяргеем Румасам**, старшынёй асацыяцыі "Беларуская федэрацыя футбола". Напрыканцы сустрэчы я ўсё ж адважыўся і задаў яму пытанне: "Мы трэніруемся ўжо паўтара месяца. Што мне сказаць хлопцам, якія ў распранальні кожны раз пытаюцца: ну што?". Сяргей Румас адказаў: "Можаце так і перадаць хлопцам, што камандзе ў першай лізе быць".

Аднак усё ж падрыхтоўку да сезона нельга назваць бязвоблачнай.

– Не схаваю, што на мясцовым узроўні мы трапілі на сцэну непаразумення. Да **Мікалая Шрымфа** не маглі доўга дабіцца, бо ён то на лыжні, то яшчэ чым заняты.

**Мы ж разумеем, што выхадам у першую лігу падкінулі праблем.**

Але ж сам старшыня выканкама **Аляксандр Яхнавец** на ўзнагароджанні сказаў, што дапаможам. Дык чаму мы, каманда, якая заваявала права гуляць у першай лізе па спартыўным прынцыпе, вымушаная з такімі цяжкасцямі адваёўваць гэта права?

### Тым часам у Маладзечне

Што будзе з камандай "Маладзечна-ДЮСШ-4" – не ведаем да сёння. Па словах Мікалая Шрымфа, каманду трэніруе **Валер Вятроў**, але ці стане ён галоўным трэнерам, пакуль невядома.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Пра таго, хто мала бывае на людзях.
3. Прагулка на свежым паветры.
5. Тонка ссуканая пража, якая выкарыстоўваецца для шыцця, вязання.
6. Дзелавая папера.
8. Пашкоджанне, страта.
9. Прыстасаванне на колцах або роліках, на якім катаюцца дзеці пры адштурхоўванні ад зямлі нагой.
11. Невядома хто.
12. На гербе гэтага беларускага горада – узлятаючы чорны арол з залатой дзюбай, языком і лапамі.
17. Астатак, розніца паміж прыходам і расходам рахунка.
18. Прыстасаванне, дзе распальваюць і падтрымліваюць агонь.
20. Якуб Колас: "Уцякай, мароз-дзядуля, Чуеш ты, стары, ці не? На пагорках – булі-гулі! – Песні чуюцца ..."
21. Прыйсці ў стан раз'юшанасці; здурнець ад страху.
23. Што-небудзь некранутае
24. Памылка, хіба.
25. Драпежны звярок сямейства куніцавых з каштоўным пушыстым футрам.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Бескарысна, дарэмна, марна.
4. Другі дзень тыдня.
7. Кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зярнят какавы з цукрам.
10. Медыцынскі прэпарат, белае крышталічнае рэчыва, якое суцішае боль і паніжае тэмпературу.
13. Крываносны сасуд, які нясе кроў ад сэрца да розных органаў цела.
14. Штучны вадаём.
15. Пра адчуванне няязручнасці, невыгоды.
16. Вышэйшы орган судовай і палітычнай улады ў Старажытных Афінах.
19. Свіное пасоленае сала.
22. Мужаў брат.
26. Раней, задоўга да цяперашняга часу.
27. Ахайны, старанна прыбраны; чысты, акуратны.
28. Высакасортнае пеністае вінаграднае віно, якое насычанае вуглякіслым газам.

## Адказы на крыжаванку з №10

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Клятва. 3. Баразна. 5. Напалеон. 8. Какос. 10. Пятрушка. 12. Атака. 13. Увага. 17. Бакалея. 18. Багет. 20. Аснова. 21. Шклоў. 22. Марока.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Калумбія. 2. Арабіка. 4. Каларыт. 6. Язык. 7. Швецыя. 9. Канстанта. 11. Клаксан. 14. Ацёк. 15. Карова. 16. Увогуле. 18. Буслянка. 19. Кветка. 23. Кажан.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**У ДНІ ВЯСЕННІХ КАНІКУЛАЎ**

**"Казка пра чырвоную стужачку"** 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

27 сакавіка – у 10:30

**"Тайна вострава людаедаў"** 6+ (пірацкі трылер у адной дзеі), *Дамір Салімзянаў*

28 сакавіка – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. **"Час сэканд-хэнд"** 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*

17 сакавіка – у 17:00

**ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ г. Маладзечна**

**ГАСТРОЛІ ВЕЛІКАЛУКСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА (РФ), ПРЫСВЕЧАНЫЯ СУСВЕТНАМУ ДНЮ ТЭАТРА**

**"Пані Мяцеліца"** 3+ (казка для сямейнага прагляду), *Павел Сяргееў*

21 сакавіка – у 14:00,
22 сакавіка – у 11:00

**"Ваўкі і авечкі"** 12+ (п'еса ў 2-х дзеях), Аляксандр Астроўскі

21 сакавіка – у 19:00

**"Старэйшы сын"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксандр Вампілаў*

22 сакавіка – у 18:00

**ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ТЭАТРА**

**"Плачу наперад"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*

27 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 16-22 САКАВІКА



**АВЕН.** Наступае такі спрыяльны перыяд, калі вы з'яўляецеся гаспадаром свайго лёсу. У вас ёсць сілы і імкненні, каб рабіць крокі наперад, каб не стаяць на месцы. Злы лёс і добры цяпер не будуць умешвацца ў вашы дзеянні.



**ЦЯЛЕЦ.** Падзеі не прадракаюць вам прамых заробкаў ці поспехаў у каханні, але павышаная энергетыка, уменне прасоўвацца наперад і дасягаць пастаўленых мэтаў можа прывесці і да таго, і да другога. Прыслухайцеся да сябе і не бойцеся эксперыментаваць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не будзьце такімі саманадзейнымі і не ўлазьце ні ў якія грашовыя аперацыі, бо рызыкуеце панесці страты. Нават калі вы распланавалі і прадумалі, калі ёсць план дзеянняў, то на практыцы ўсё можа пайсці інакш.



**РАК.** Энергіі ў вас будзе больш чым дастаткова, і яна не пройдзе ўпустую, а набудзе цалкам рэальную форму, чым у значнай ступені палепшыць ваша становішча.



**ЛЕЎ.** Вясенні эмацыйны настрой вас пакуль яшчэ не закрануў, у адрозненне ад іншых прадстаўнікоў задыякальнага кола. Вы будзеце працаваць і дасягаць нават вельмі значных вынікаў.



**ДЗЕВА.** Ва ўсіх спраў, пачатых у гэты перыяд, – добрая перспектыва. Таму нічога не адкладвайце на заўтра, смела бярыцеся за работу, вам усё па сілах.



**ШАЛІ.** Вы зможаце дасягнуць такога стану, які прынята называць шчасцем. І гэта неабавязкова павінна быць звязанае з нейкімі матэрыяльнымі ці іншымі вынікамі, з валоданнем чымсьці. Шчасце яно ёсць само па сабе.



**СКАРПІЁН.** Не вырашайце вы самі, хто вінаваты, а хто не. Рабіце вынікі для сябе і не агучвайце іх іншым людзям. Умейце ўзважыць усе "за" і "супраць". І не ідзіце на повадзе эмоцый.



**СТРАЛЕЦ.** Калі пастаянна да нечага імкнуцца, пры гэтым зусім не разумеючы навошта, а таму, што так прывыклі, то ў выніку, акрамя стомленасці, нічога не атрымаеце. Таму вазьміце перапынак, каб адпачнуць і прывесці свае сілы ў парадак. Актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны.



**КАЗЯРОГ.** Вам неабходна знайсці залатую сярэдзіну, зраўняць усе супрацьлегласці і ісці па гэтым шляху. А каб дасягнуць такой раўнавагі, неабходна прыйсці да гармоніі ўнутры сябе. Унутры вас могуць бушаваць розныя сілы, унутраны звер можа вырвацца вонкі. Калі яго не прыручыць, ён наробіць шкоды.



**ВАДАЛЕЙ.** Адзіная сфера, дзе можна сябе заняць, – інтэлектуальная. Можна заняцца творчасцю, да якой ляжыць душа, складаннем планаў і правядзеннем разлікаў. А можна адпачываць, чытаць кнігі ці паглядзець які-небудзь добры фільм.



**РЫБЫ.** Настаў час прымаць рашэнні, ад якіх будзе залежаць усё ў вашым далейшым жыцці. І не прыслухоўвайцеся да меркавання іншых, інакш гэта будзе азначаць, што вы перадалі кіраванне сваім жыццём трэцяй асобе. Калі ў вас ёсць дзеці, то навучыце іх чамусьці карыснаму, што абавязкова спатрэбіцца ў жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 2 | 6 | | 8 | | |
| | | | | 3 | 9 | | 4 | |
| | | | 1 | 5 | 8 | | 2 | |
| 9 | 1 | 5 | | | | | 3 | |
| 7 | 4 | | 9 | 8 | | | | |
| | | | | 1 | 5 | 7 | | |
| | 2 | | | 4 | | | | 5 |
| | 7 | | | | | | 8 | 6 |
| | | | | | | 3 | 1 | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 · НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015 · тэлетыдзень


## НАДВОР'Е

### 17 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -4 / -2 | | -7 / -4 | | -5 / -2 | | -6 / +2 | |
| | 739 | ↙ 2 | 741 | ↙ 7 | 742 | ↓ 4 | 738 | → 6 |
| Вільня | -3 / -3 | | -5 / -5 | | -6 / -2 | | -4 / +2 | |
| | 747 | ↙ 4 | 750 | ↙ 7 | 750 | ↓ 3 | 744 | → 7 |

Тэмпература паветра · Воблачнасць ападкі · Ціск (мм рт. сл.) · Хуткасць ветру м/с · Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.21
Захад 19.20
Даўжыня дня 11.59

Усход 7.46
Захад 19.09
Маладзік

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -6 / -4 | 750 | ↙ 3 |
| Гродна | -5 / -4 | 752 | ↙ 8 |
| Мінск | -7 / -4 | 741 | ↙ 7 |
| Магілёў | -6 / -4 | 747 | ↙ 8 |
| Брэст | -3 / 0 | 751 | ↙ 7 |
| Гомель | -5 / -6 | 747 | ↙ 8 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -10 °С у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +16,6 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,9 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

- Ці сутыкаліся нашы чытачкі з парушэннем жаночых правоў? Чаму ахвяра часам баіцца прызнацца ў тым, што церпіць дамашні гвалт. Матэрыялы з круглага стала па правах жанчыны чытайце ў наступным нумары.





## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Каханы, мне здаецца, што ў карбюратар вада трапіла.
– Якая ты разумная стала. Хоць ведаеш, дзе карбюратар знаходзіцца?
– У машыне.
– А машына дзе?
– У рэчцы.

***

– Што робіш?
– Сумую без цябе, кахаю. Ты снішся мне кожную ноч, мне так цябе не хапае. А ты?
– Сасіску ем.









## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якое мастацтва вам бліжэй?



**Эдуард Кулагін, музыкант, Смаргонь:**
– Музыка, вядома. А што яшчэ вы хацелі пачуць ад музыканта?



**Дар'я Савіна, навучэнка, Вілейка:**
– Напэўна, бліжэй для мяне мастацтва фатаграфіі. Я вельмі люблю фатаграфаваць і шмат часу праводжу за гэтай справай.



**Вадзім Дралоў, эканаміст, Маладзечна:**
– Мастацтва? Я далёкі ад яго. Хіба што музыку па радыё часам слухаю ў машыне.



**Кацярына Шытыка, дырэктар прыватнага прадпрыемства:**
– Кіно і музыка. Кіно люблю і савецкае, і сучасныя замежныя серыялы, фільмы пра бізнес, пра медыцыну. А музыку ёсць час слухаць толькі ў трэнажорнай зале.



**Алена Нікалаева, выхавальніца, Маладзечна:**
– Захапленне мастацтвам дыктуе праца: мілыя дзіцячыя вершы і вясёлыя песенькі для дашкольнікаў.



**Таццяна Клімовіч, бухгалтарка, Вілейка:**
– Тэатр люблю, але выбіраюся раз на год. А так кіно, музыка – гэта тое, што заўсёды побач. І нікуды не трэба ісці.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1194) 16.03.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 262. Падпісана ў друк у 9.00 15.03.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.